# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (848) Год XVII БЕЛАСТОК 28 МАЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.



Мякчэй няма за матчыны падушкі,
ужо не сплю, не сплю ў такую рань.
На тым акне ружовая герань.
Над тым акном гняздо вясёлай птушкі.
Яно было адзінае на свеце,
Як поціск рук тваіх, як твой пагляд.
Усё гэта больш не вернецца назад.

Я разумею гэта. Толькі вецер,
Як апантаны, ходзіць па іржышчы,
І гойдае над дахам праўды,
І ўсё шукае даўнія гады
Сярод забытых рэчаў на гарышчы.

*Святлана Басуматрава*

*Ах, гэтыя пайлінаўскія цёткі! Я іх адрознію кожную ад любой палескай і не палескай кабеты. Не, не па звонкай песні, не па гучным смеху, не па вострым языку... А па любай і смешнай вясковай гутарцы. Ёю гаворыць мая маці.*

*Ніна Гараглад*

РЭПАРТАЖ З ВЁСКІ АКСЮЦІЧЫ

# ЖЫВЕМ, НЕ ГАРУЕМ

Наш ніваўскі сябар з-за мяжы піша: «Я рэгулярна атрымліваю вашу газету. Яна мне падабаецца, магчыма таму, што ў ёй я знаходжу інфармацыю пра знаёмыя мясціны. Аднак пра сваю (даўнейшую) вёску Аксюцічы, Сямяціцкага павету, не чытаў ані разу...»

Вёска Аксюцічы? Дзе яна? Я ж таксама нарадзіўся ў Сямяціцкім павеце, а вось пра Аксюцічы... Праімчаўся ад Сямяціч кіламетраў з дзесяць — спачатку асфальтам, а затым крутой палявой, часам толькі жвіраванай, дарогай.

З узгорку перад Аксюцічамі распасціраўся жывапісны «ландшафцік». Нібы спецыяльна падрыхтаваны натурай для каляровай фатаграфіі.

— Каго шукаеце, пане? — вырывае мяне з задумы голас старога чалавека.

— Любуюся вашым краявідам, — гавару яму.

— Чым?! — здзіўляецца дзядуля. — Я тут ужо 80 год пражыў і не ведаю, каб хтосьці чымсьці такім любаваўся.

— Як жыццё?

— Жывем, не гаруем, — гаворыць дзед Цырыян Годун. — Калі ўспомню сваю маладосць — ого! За цара гэта яшчэ было — чатырох братоў нас у нашага бацькі, ды яшчэ адна сястра, а хата маленькая, аднаізбовая, затое печка і прыпечак, як ток у клуні, там мы ўсе спалі, а елі... 200 дзён посту, а рэшту тыдняў — раз у нядзелю мяса.

— Чый гэта дом? — паказваю на прыгожы асабняк.

— Мой! — з гонарам гаворыць дзед і зараз жа дадае: — Значыць, наш, сынаў, нядаўна мы яго будавалі.

Заходзім у сярэдзіну. Перад парогам пярэдняй — як у горадзе — рад чаравікаў, значыць, тут нельга заходзіць «на пакоі» ў запэцканым абутку. За парогам — пыласос, у кожным пакоі — дыван на падлозе, тапчаны і версалькі для спання, мэбля блішчыць фабрычным лакам, у кухні — цэлая сцяна з беленькай кафлі і — кран з вадой!

— Мы сабе, як яго, вось забыў... здаецца нідрафон, абсталявалі, — паясняе дзед Цырыян і адчыняе дзверы да ваннага пакойчыка, а там, як у горадзе — усё, што трэба, каб і пакупацца пасля цяжкай працы, і... «за хлеўчык» не бегаць.

Дамашні халадзільнік, сціральная машына, радыёпрыёмнік, электрагramафон дапаўняюць тут малюнак гэтага жыцця.

— Колькі мог каштаваць гэты ваш дом? — цікаўлюся.

— Колькі? — Я і сам добра не ведаю... можа нават тысяч трыста... І ўсё гэта, — дадае дзед Цырыян, — з нашых рук, з гэтых дзесяці гектараў зямлі, на якіх мы цяпер жывем ды гадуем

Працяг на стар. 4



*Палявой дарогай дабраліся мы ў вёску Аксюцічы.*

# НЕ ВА ЎМОВАХ СПРАВА

Ніхто не скажа, што лёгка працаваць у васьмікласнай школе, калі яна размешчана ў пяці прыватных хатах па ўсёй вёсцы, што цягнецца амаль на вярсту. Але для сапраўднага настаўніка-дзеяча ўсе такія і іншыя цяжкасці не перашкода ў актыўнай працы ў сваім асяроддзі. Прыклад гэтаму

*ПАЧАТКОВАЯ ВАСЬМІКЛАСНАЯ ШКОЛА Ў ВІЛЯНОВЕ,*

Сямяціцкага павету. Сяміасабовы настаўніцкі калектыў складае ў гэтай школе дружную і працавітую сям'ю. Сістэматычная праца настаўнікаў прыносіць добрыя вынікі. Возьмем хоць бы мінулы (1970/71) школьны год. У васьмым класе было 18 вучняў, з іх 15 асоб паступіла вучыцца ў розныя сярэднія школы. У бягучым годзе ў восьмым класе зноў 18 вучняў, і ўсе яны пасля заканчэння пачатковай школы збіраюцца паступаць вучыцца далей. Моладзь з віляноўскай школы выбірае разнастайныя сярэднія школы: па трое выхаванкаў школы вучыцца ў агульнаадукацыйных ліцэях з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім і Гайнаўцы, у іншых агульнаадукацыйных ліцэях; многа вучыцца ў тэхнікумах і засадніцах завадовых школах. Але сваю асветную дзейнасць школа не абмяжавала толькі да дзяцей у вучнёўскім узросце. Амаль кожны год яна арганізавала курсы пачатковай школы

*ДЛЯ ДАРОСЛЫХ.*

Дзякуючы ім на працягу 5 год пачатковую школу закончыла больш 100 дарослых. Апрача гэтага, школа вяла курсы па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы і курс беларускай мовы. Бацькоўскія дні (вывядоўкі) ператварыліся тут у своеасаблівыя

Працяг на стар. 4



*Між вёсачкамі Паўлавічы і Аксюцічы стаіць скромны помнік, а пры ім ёсць над чым прызадумацца солтысу А. Матысюку.*

